# ПЕРШЫ МАЙ

*Словы і музыка М. КРАСЕВА* — *Памеркаваў В. ЯФІМАЎ*

За калёнамі калёны,
За атрадамі атрад, наш атрад!
Паламнее сьцяг чырвоны,
Песьні вольныя зьвіняць.
Прыпеў.

Май чырвоны — наша сьвята.
Піонэры, шаг раўняй, шаг раўняй!
Гэй, наперад, акцябраты!
Весялей, труба, іграй!

Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“

Рэдактары: Гайдукевіч, Якімовіч А.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

Умовы падпіскі:

На 1 месяц . . 15 к.
На 3 м-цы . . 45 к.
На 6 м-цаў . . 90 к.
На 1 год. . 1 р. 80 к.

№ 4 красавік 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



Дзяткор *В. ІЛЬЛЯНКОЎ.*

## СЁНЬНЯ СЬВЯТА



Гэй, калёны—
Сьцяг чырвоны
Падымай!
Ля ваколіц
Комсамоліць
Першы Май.
Госьць жаданы
І чаканы
Прыляцеў.
Шлях квяцісты,
Урачысты
Абагрэў.

Гучным звонам
У калёнах
Сьпеў зьвініць.
Ўсё наперад
І наперад
Край імчыць.
Гальштук новы,
Каляровы
Надзявай!
Выйдзі з хаты,
Сёньня сьвята—
Першы Май!



# ПЕРШАЕ МАЯ

З нецярплівасьцю чакаюць дзеці кожны год вялікага сьвята працоўных—1-ае Мая. З вялікай радасьцю сустракаюць свае сьвята і ўсе працоўныя.

А ведаеце, дзеці, чаму мы сьвяткуем 1-ае Мая?

Было гэта даўно. Рабочыя пачалі патрабаваць ад капіталістых сабе палёгкі, бо праца на фабрыках і заводах была пакутная. Рабочага прымушалі працаваць па 15 і 18 гадзін на суткі. Плацілі зусім мала. Нават на ежу не хапала. Чалавек ня мог вытрымліваць такой цяжкай працы.

Рабочыя пачалі змагацца з капіталістымі, дамагацца сабе правоў.

Але адзін чалавек нічога ня можа зрабіць, нічога не даб'ецца. Яго адразу закуюць у кайданы ды пасадзяць у турму. Змагацца аднаму цяжка.

Куды лягчэй і лепш рабочым змагацца з уладарамі фабрык за свае правы гуртам, арганізавана. Тады сіла рабочых робіцца магутнай і непераможнай.

І вось для арганізаванай барацьбы з буржуазіяй рабочыя ўсяго сьвету выбралі ў гаду адзін пэўны дзень—1-ае Мая.

Чаму рабочыя выбралі днём арганізаванага выступленьня на барацьбу з буржуазіяй усяго сьвету дзень 1-га Мая?

У гэты дзень у 1886 годзе была ў Амэрыцы адна з вялікіх забастовак. Вось гэты дзень і стаў памятным для працоўных, як дзень змаганьня за лепшае жыцьцё, за зьнішчэньне буржуяў. Таму рабочыя і вызначылі сьвяткаваць гэты дзень кожны год.

## КРЫЖОВЫ ПАХОД

**З КНІЖКІ УРАЛЬСКАГА**



**Сядзеў папа рымскі на троне,**
**У сьвятой кароне.**
**І зажадалася папу сабраць**
**Фашыстых вялікую раць.**
**Паглядзім, куды ён шагае,**
**Паглядзім, каго ён склікае.**

*(Гл. на стар. 11).*

Сорак адзін год таму назад, у 1890 годзе ўпяршыню працоўныя ўсяго сьвету сьяткавалі 1-ае Мая. Рабочыя пастанавілі ў гэты дзень спыніць усю працу і выйсьці са сьцягамі, з песьнямі на вуліцу. Буржуі напалохаліся такога выступленьня рабочых.

Але рабочыя былі яшчэ слаба згуртаваны. Буржуазія іх перамагла.

І з таго часу дзень 1-га Мая стаў днём барацьбы працы з капіталам. Сотні і тысячы забітых і параненых рабочых у капіталістычных краінах застаюцца на вуліцы кожны год пасьля сьвяткаваньня 1-га Мая.

Але надыйдзе час, калі рабочыя перамогуць капіталістых і будуць сьвяткаваць 1-е Мая вольна, разам з намі.

14 гадоў працоўныя краіны саветаў вольна сьвяткуюць 1-ае Мая. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна Савецкі Саюз мае вялікія посьпехі ў будаўніцтве лепшага жыцьця — соцыялізму. Пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва з посьпехам выконваецца за чатыры гады.

Буржуі ўсяго сьвету з усіх сіл стараюцца пашкодзіць нам, разбурыць нашу працу. Яны ведаюць, што Савецкі Саюз—гэта гібель для іх. І чым больш будзе расьці і мацнець Саюз, тым скарэй наблізіцца іх сьмерць.

Рабочыя ўсяго сьвету сочаць за нашым будаўніцтвам. Яны вучацца ад нас, як рабіць рэволюцыю, як змагацца з капіталістамі.

СССР—адзіная соцыялістычная бацькаўшчына пролетарыяў усяго сьвету. Комуністычная партыя—адзіны правадыр працоўных. Вось чаму працоўныя іншых краін ідуць за намі, стаяць за нас. Чырвоная армія моцна трымае ў руках вінтоўку, цьвёрда абараняе межы бацькаўшчыны пролетарыяту,

Мы 1-шы Май сьвяткуем вольна. Гэтак-жа вольна павінны сьвяткаваць сваё сьвята і працоўныя іншых краін. За гэта яны змагаюцца і даб'юцца свае перамогі.

Дзеці працоўных павінны яшчэ больш узмацніць свой удзел у соцыялістычным будаўніцтве.



# Раней і цяпер

*Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ*

## ТАК БЫЛО

Прыгожая маёвая раніца. Цёпла, сонечна.

Але чаму сёньня на вуліцах так мала народу? Хто гэтыя людзі, што стаяць на рагох вуліц у зялёных шынелях з меднымі бляхамі на шапках? Чаму яны так злосна і пільна глядзяць па баках?

Вось такія-ж самыя і яшчэ шмат іншых у другіх вопратках езьдзяць на конях. Што трымаюць яны ў руках? Для каго гэтыя бізуны, тоўстыя і цьвярдыя.

Вось нейкі шустры хлопчык гадоў дванаццаці, у кепскай вопратцы, ходзіць з двара на двор па рабочай акраіне. Ён асьцярожна аглядваецца і часта прыкладвае руку да сваёй пазухі. Што там такое каштоўнае ў хлопчыка за пазухай? Чаму, калі ён праходзіць каля гэтага страшнага дзядзькі ў зялёнай шынелі, дык пачынае туліцца ў бок?

Вось зайшоў ён у нізенькую рабочую хатку.

Чаму сёньня маўчаць заводы і ня дымяць трубы?

Рабочыя чамусьці сёньня не каля варштатаў, а гурткамі ходзяць па вуліцах.

Вось паказалася адна групка рабочых. З завулка вышла і далучылася да яе другая і яшчэ, і яшчэ. Іх стала многа, гэтых змораных ад цяжкай працы і галодных людзей.

Чутны сьпевы і крыкі. Што сьпяваюць, аб чым крычаць яны?

— Далоў самаўладзтва!

— Няхай жыве воля!

— Хочам 8-мі гадзінны працоўны дзень!

Але, што за шум у канцы вуліцы? Што за рух?

З завулка выбягае спалоханы хлопчык. За ім, размахваючы тоўстым бізуном—высокі, страшны, у зялёнай шынелі, чалавек.

Гэта паліцэйскі—слуга цара.

— Ах ты бальшавіцкае шчанё! Проклямацыі разносіць! І ты бунтаваць?

Бізун сьвіснуў у паветры. Маленькі хлопчык паваліўся. Чырвоны ручаёк крыві пасачыўся з галавы на вопратку.

Вялізарны цяжкі камень паляцеў з натоўпу рабочых у паліцэйскага. Як вялікая птушка, узьняўся чырвоны сьцяг над галовамі рабочых.



*На вуліцы засталіся забітыя, параненыя...*

Што гэта за людзі з такімі зьвярынымі тварамі выбеглі з завулкаў? На конях і так. З шашкамі. Бізуны напагатове. З коньмі проста ў натоўп рабочых. Засьвісталі нагайкі і шашкі.

І хіба-ж спалохаліся рабочыя? Адступілі?

Не! У адказ паляцелі палкі, каменьні. Каменьні і адвага былі зброяй у руках рабочых.

Пачуліся стрэлы. Гэта стралялі паліцэйскія ў рабочых. Крыкі, енкі параненых. Рабочыя нясуць параненых і забітых таварышоў.

Але патроху натоўпы рабочых зьмяншаюцца. Жанчыны і дзеці падносяць каменьні. Адступаюць рабочыя. Вораг мацнее. У ворага зброя. Іх шмат.

Вуліца павольна пусьцее. Засталіся забітыя. Шмат параненых. Шмат арыштаваных.

Ці пакаралі тых, што стралялі ў рабочых? Не. Ім падзякавалі і далі ўзнагароду.

Што гэта? Цяжкі сон?

Не, дзеці. Гэта так было ва ўсіх гарадох былой Расіі, даўно, пры цары, у дзень 1-га Мая.

Гэта ёсьць і цяпер там, дзе ўлада капіталістых.

## ЦЯПЕР У НАС

Вуліцы звонкія. Вуліцы прыбраныя! Чырвоныя сьцягі, як крыльле вялізарных птушак, плаўна рэюць у паветры. Іх шмат, гэтых сьцягоў. Цэлы лес.

Калёна за калёнай з музыкай і сьпевамі. Ідуць рабочыя. Ідуць дзеці: акцябраты, піонэры. Стройныя, звонкія калёны дзяцей.

Чаму гэта сёньня ўсе людзі на вуліцах? чаму яны такія шчасьлівыя і радасныя?

Сёньня сьвята ўсіх працоўных—1-е Мая.

Рабочыя і іх дзеці—гаспадары краіны—вышлі вітаць 1-е Мая.

Ці забароняць ім сьвяткаваць? Ці прыбягуць зноў тыя страшныя людзі з бізунамі і шашкамі у руках?

Не! Не! Вуліцы—рабочых. Фабрыкі, заводы, усё, усё належыць працоўным. Ужо 14 гадоў працоўныя савецкага Саюзу будуюць соцыялістычнае жыцьцё. Таму і весела. Таму так горда калышуцца сьцягі.

Чутны звонкія галасы акцябрат. Акцябраты ня ведаюць іншага Маю. Акцябраты ня бачылі страшных людзей з бізунамі ў руках—паліцэйскіх.

— Няхай жыве Першае Мая ва ўсім сьвеце!




**Калёна за калёнай, з музыкай і сьпевамі ідуць працоўныя.**



# Алеська

*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ*
*Малюнкі САМАТЫЯ*

Учора Алеську перадалі з акцябрат у піонэры. О, як рады Алеська: ён ужо вялікі, ён—піонэр! У яго на шыі чырвоны гальштук, а ня чырвоная зорачка, якая была дагэтуль.

Алеська добра ведае, што піонэр павінен быць прыкладам для ўсіх дзяцей. Ён пастараецца быць гэткім.

Сёньня ў колгасе чысьцяць насеньне. Піонэратрад склаў брыгады па ачыстцы насеньня. У першай брыгадзе Алеська.

— Мы выклікаем усе брыгады на спаборніцтва, — кажа Алеська, шпарка ідучы з сваімі брыгадзірамі да колгасу

Усе брыгадзіры згадзіліся з прапановаю Алеся.

Весела і добра працавала Алеськава брыгада. Шпарка і весела гучэла сартоўка. А праз вароты гумна на дзяцей пазірала сонейка.

— А сонца ўжо вельмі добра грэе,—заўважыў Арон;—вясна ўжо.

— Скора наша сартаванае насеньне пасеюць на полі колгасу і атрымаюць добры ўраджай,— кажа Мікола.

— А весела працаваць, калі ведаеш, што твая праца ідзе на карысьць,—дадае Міхась.

— Я-ж свайго бацьку ўгаварыў запісацца ў колгас, падаў ужо заяву,—радасна гаворыць Алесь.

— Чый ты хлопчык?—пытаюцца ў Алеся колгасьнікі, якія прышлі зьбіраць чыстае насеньне.

— Паўлюкоў,—адказвае Алесь. —Ведаеце, мы вам школай паўтары тысячы яблыкавых зернятак пасадзілі ў скрынкі. Зробім у вас пітомнік. Скора выклічам вас на соцспаборніцтва,—сьмяецца ён.

— Вось гэта піонэры!— кажуць колгасьнікі,— вось гэта дык вучні.



# Цэлюлёідны таварыш



**Урывак з кніжкі А. Смірновай „Манон“.** *Мал. А. ТЫЧЫНЫ*

Увосень Васіль, Алік і яшчэ некаторыя хлопцы прышлі зноў да славутага майстра [1]).

— Наш Бронэк едзе ў Польшчу. Яго з маткай выклікае да сябе багаты дзядзька. Мы хочам даць яму што-небудзь на ўспамінак,—сказалі яны майстру.

— А чаго яны туды едуць?— запытаўся майстар.

— Маці Бронэка прачка. Дзядзька абяцае ёй добрае жыцьцё. Таму яна і захацела паехаць,—адказалі дзеці.

— Ну, добра,—сказаў майстра,—у мяне ёсьць для яго добры падарунак.

Ён пашукаў у скрынцы і дастаў адтуль невялічкую доўгую каробку.

— Вось гэта яму прыгадзіцца ў Польшчы,—сказаў ён, усьміхаючыся. Завязаў каробку вяровачкай і аддаў хлопцам.

Калі Бронэк прышоў апошні раз да таварышоў, яму зрабілі ўрачыстыя провады. Усе селі на лаўкі, а акцябронак Вася ўзьлез на стол, абвёў вачыма ўсіх прысутных і Бронэка ды сказаў:

— Бронэк, ты едзеш ад нас у Польшчу. Ты ня будзеш бо-



*Бронэк з маткаю і сёстрамі сядзеў у цягніку і глядзеў у вакно*

---

[1]) Гэты майстар умеў рабіць розныя дзіўныя цацкі, якіх да яго яшчэ ніхто не рабіў.

лей гуляць з намі. Але мы цябе любім і даем табе гэты падарунак, каб ты ўспамінаў усіх нас і СССР.

І Васілёк аддаў Бронэку завязаную каробачку.

На другі дзень Бронэк з маткаю і двумя сёстрамі ўжо сядзеў у цягніку і глядзеў у вакно. Паравоз сьвістаў, калёсы грукаталі. Каля вакна беглі дрэвы і кланяліся Бронэку.

Праз некалькі гадзін цягнік спыніўся. Па вагоне прайшлі чырвонаармейцы і сказалі: „Граніца“. Маці Бронэка пачала зьбіраць рэчы, усе пасажыры таксама. Скора ўсе вышлі з цягніка з клункамі, карзінамі, чамайданамі.

Іх завялі ў вялікі хлеў, дзе нейкія чужыя людзі ў мундзірах сталі разьвязваць усе клункі, адчыняць чамайданы і пераглядаць усе рэчы. Бронэк не разумеў гэтага, але маці сказала, што так заўсёды робяць на граніцы.

— А гэта што такое?—запытаў адзін салдат і дакрануўся пальцам да каробкі Бронэка.

Бронэк спужаўся і прыціснуў да сябе падарунак таварышоў. Але салдат груба выхваціў каробку, разарваў вяроўку і адкрыў.

— Ого!—крыкнуў ён.—Цэлюлёідны таварыш!

І ўсе людзі ў мундзірах надзьмуліся, пачырванелі. У каробцы ляжала цэлюлёідная [1]) цацка—маленькі чырвонаармеец у зялёным шлёме з чырвонаю зоркаю.

— Няможна, — сказаў салдат,—няможна завозіць у Польшчу чырвонаармейцаў,—і кінуў каробку ў кучу рэчаў, адабраных у другіх пасажыраў.

Бронэк заплакаў. Каробка раскрылася. Чырвонаармеец выпаў з яе і закаціўся за нечую скрынку ў кутку. Салдат, сьмяючыся, падняў пустую каробку і аддаў Бронэку.

[1]) Цэлюлёід—цьвёрдая матэрыя, з якой робяць цацкі.



**Гуляе буржуй па тратуварах гладкіх,**
**Каб рук не запэцкаць—адзеў ён пальчаткі.**
**Але знаюць працоўныя людзі,**
**Што рукі яго усёроўна у брудзе,**
**Што буржуй наш вораг пракляты.**
**Вось гэтаму папа і рады!**

*(Гл. на стар. 13).*

Іх выгналі з хлява і павялі да другога цягніка.

Уночы Бронэк прачнуўся. Яго нехта паварушыў за нос. Пачыналася раніца, сонца ўзыходзіла. Яны былі ўжо ў Польшчы. Бронэк працёр рукою вочы: у яго на грудзёх ляжаў цэлюлёідны таварыш.

— Ну,—сказаў Бронэк,—гэта проста дзіва!

— Цсс... — сястра пагразіла пальцам. — Ня выдавай мяне: я ўзяла яго і схавала для цябе.

Бронэк палажыў цацку з сабою на падушку і зноў заснуў. Яму прысьнілася, што цэлюлёідны таварыш сказаў яму на вуха:

— Як прыедзем у Варшаву, дык аб усім са мною райся і нікому мяне не аддавай.

Раніцою яны прыехалі ў Варшаву да дзядзькі. У дзядзькі быў свой гандлёвы магазын і вялікі дом з бальконам. Бронэк з маткаю і сёстрамі засталіся жыць у маленькім цёмным пакойчыку каля кухні.

— Ты будзеш мыць бялізну,— сказала цётка матцы Бронэка,— а дзяўчаты прыбіраць дом і мыць падлогу, бо я добрая гаспадыня і люблю чыстату. Бронэк яшчэ пакуль-што малы, дык мы яго аддамо ў школу. За гэта ён будзе насіць кнігі маіх сыноў. У мяне тры сыны—

чыш іх, як яны прыдуць са школы.

— Ого!—сказаў Бронэк матцы: — Цяпер я ведаю, чаму дзядзька запрасіў нас да сябе. Яму патрэбны дарэмныя работнікі. Жулік дзядзька—вось хто ён.

— Маўчы, Бронэк,—уздыхнула маці:—Цяпер нічога ня зробіш! Мы павінны застацца, бо ў нас няма за што вярнуцца назад...



*... Ці-ж так вітаюцца—нагамі?..*

Скора сыны дзядзькі прышлі са школы і цётка дазволіла Бронэку прысьці ў залю на іх паглядзець. Яны былі добра апрануты. Спыніўшыся перад Бронэкам, яны застукалі нагамі. Бронэк зьдзівіўся і паглядзеў на іх блішчастыя чаравікі.

— Што-ж ты ня вітаешся?— сказалі яны.

Бронэк адказаў:

— Ці-ж так вітаюцца нагамі? У нас у СССР мы вітаемся так.—Ён падняў правую руку ўверх і сказаў:—Будзь гатоў!

— Што гэта значыць?— запыталі хлопчыкі.

— Гэта значыць, — адказаў Бронэк,—што мы заўсёды гатовы дапамагаць рабочым зьнішчаць капіталістых.

— Як-жа ты можаш дапамагаць рабочым? Ты яшчэ малы.

— Ну, як вырасту.

— Зусім няцікава дапамагаць рабочым,—сказаў Стась.— Я, калі вырасту, буду афіцэрам. У афіцэраў прыгожая вопратка і доўгая шашка, якою можна засеч кожнага непаслухмянага рабочага.

Юзік сказаў:

— А я, калі вырасту, буду памешчыкам. У мяне будзе прыгожы дом, шмат сьвірнаў з хлебам, шмат сялян і цукравы завод. Я буду езьдзіць на прыгожым кані і браць хлеб у сялян і цукар у рабочых.



**Соцыял-дэмократ**
**Ваяваць заўсёды рад.**
**І да папы на паклон**
**З усіх ног сьпяшаўся ён.**
**Дагадзіць папу рад**
**Соцыял-дэмократ.**

*(Гл. на стар. 21).*

— А тады рабочыя і сяляне зробяць рэволюцыю, — сказаў Бронэк.

— Мы не дазволім. Мы кожны дзень вучымся страляць. Пасьля абеду мы пакажам табе наш цір.

— А я буду ксяндзом,—сказаў Чэслаў.—У мяне будзе лысіна на галаве і бог мне пашле шмат гарэлкі і смачных піражкоў.

— Хто гэта бог? — запытаў Бронэк.

Браты зьдзівіліся і замахалі на яго рукамі.

— Што ты? Што ты? Матка боская, што ён гаворыць!

А гэта што за асоба?

— Як, ты і боскай маткі ня знаеш?

— Зусім не знаёмы,—сказаў Бронэк.—Што яны робяць і дзе жывуць?

— Яны жывуць у касьцёле, яны робяць з людзьмі ўсё, што хочуць. Яны кіруюць усёй зямлёй.

— Толькі не савецкай,—сказаў Бронэк.—У нас кіруюць саветы.

Потым яны пашлі ў невялікі сад, дзе на плошчы стаялі мішэні для стральбы і будка, дзе салдат выдаваў стрэльбы. Хлопчыкі атрымалі стрэльбу і пабеглі на край плошчы.

Юзік, якому было ўжо 14 гадоў, добра прыцэліўся і адразу папаў. Стась страляў некалькі разоў і не пападаў. Чэслаў доўга трымаў стрэльбу, потым сказаў:

— Я павінен маліцца богу. Навошта мне страляць.

Але Бронэк бачыў, што ён проста струсіў і засьмяяўся.

— Ну, папрабуй сам,—сказалі хлопчыкі пакрыўджана.— Паглядзім, як ты стрэліш.

— Я ня ўмею,—аднекваўся Бронэк,—мне толькі дзевяць гадоў.

Але, каб ня страціць гонару перад сынамі дзядзькі, Бронэк згадзіўся.

— Ну добра,—сказаў Бронэк,—давай стрэльбу.

Ён узяў стрэльбу і адышоўся ад хлопчыкаў. Цэлюлёідны таварыш весела ўсьміхаўся з кішэні. Пачуўся стрэл. Пабеглі да мішэні. Яна была ня кранута. Пачалі шукаць, куды паляцела куля. Аж яна папала проста ў вока высокаму важнаму дзядзьку, намалёванаму на вялікім плякаце. Хлопчыкі спужаліся і ўцяклі, а перад Бронэкам ужо стаяў злосны паліцэйскі.

— Як ты асьмеліўся страляць у пана Пілсуцкага?—закрычаў ён.

— А што ён за птушка,— запытаў Бронэк пакрыўджана,— што нават нельга страляць у малюнак з яго?

— Хто ты?

— Бронэк.

— Адкуль ты?

— З краіны саветаў,—сказаў Бронэк.

— Ах ты, бальшавіцкае шчаня!—закрычаў паліцэйскі і павёў Бронэка ў паліцыю. Там у яго знайшлі ў кішэні цэлюлёіднага таварыша. Паліцэйскія перапалохаліся, пахаваліся ў куткі. Але Бронэк сказаў:

— Што вы баіцеся? Гэта-ж няжывы.

Тады яны выпхнулі Бронэка на вуліцу, а цэлюлёіднага таварыша панесьлі да ракі тапіць.

— Прападзі, бальшавіцкая сіла!—крыкнулі паліцэйскія і кі-

ваду.

Бронэк прайшоў па мосьце, спыніўся па сярэдзіне і стаў глядзець у мутныя хвалі ракі. Раптам ён убачыў у вадзе свайго цэлюлёіднага таварыша і, доўга ня думаючы, узьлез на пярыла мосту.

— Пачакай!—моцна закрычаў ён, схапіў ратавальны круг, пралез у яго і скокнуў.

Мутная вада закрыла яго з галавою. Але зараз-жа ён выплыў наверх і схваціў цэлюлёіднага таварыша за нагу.

На мосьце сабраўся натоўп. У ваду паляцелі ратавальныя кругі.

— К чорту! сказаў Бронэк.— Абыйдземся і бяз вашай дапамогі.

Ён праплыў яшчэ крыху і вылез на бераг.

— Ну, цяпер сохнуць,—сказаў Бронэк.—Табе то нічога, а я ўвесь мокры.

Ён палажыў цэлюлёіднага таварыша ў кішэню і пусьціўся бегчы.

(*Працяг будзе*).



# СЕЛЬМАШБУД



*За працаю ў інструмантальным цэху*



*Рабочы пасёлак пры Сельмашбудзе*

Мы будуем вялікія колгасы і саўгасы, для якіх патрэбна многа машын. Гэтыя машыны вырабляюцца на заводах.

Для таго, каб мець даволі машын для нашых колгасаў і саўгасаў, мы будуем заводы, якія робяць гэтыя машыны.

Недалёка ад гор. Растову пабудаваны новы такі буйны завод. Завецца ён „Растоўскі завод сельска-гаспадарчых машын“.

Тры гады таму назад на месцы заводу была стэп з рэдкімі ўзгоркамі-курганамі. Сёньня тут—прамысловы горад. Ужо цяпер ён мае 35 заводзкіх будынкаў і 50 дамоў для рабочых.

13 галоўных цэхаў займаюць плошчу ў 30 гэктараў.

Уся плошча заводу займае 280 гэктараў. Гэта—новы прамысловы цэнтр, вядомы ўсёй краіне.

Завод павінен апрацаваць у гэтым годзе 103 тысячы тон мэталю і 66 тысяч тон лесу. Павінен зрабіць машын на 56 мільёнаў руб.

Паводле пляну завод павінны былі скончыць будаваць у 1933-34 годзе. Але на заклік партыі аб змаганьні за пяцігодку ў чатыры гады, першымі адгукнуліся рабочыя Сельмашбуду. Ужо ў леташнім годзе будаўніцтва заводу ў асноўным скончана. У 1932 г. завод вырабіць машын на 115 мільёнаў руб.: 100 тысяч конных грабель, 100 тысяч трактарных снапавязалак, 100 тысяч трактарных плугоў, 30 тысяч дыскавых барон і інш.

Завод пабудован паводле навейшай тэхнікі. Уся праца на заводзе мэханізавана. Ён зьяўляецца адным з першых новых савецкіх заводаў-волатаў.

Кожны дзень гэты завод будзе адпраўляць ва ўсе куткі Савецкага Саюзу сто вагонаў сельска-гаспадарчых машын.

Растоўскі завод адыграе вялікую ролю ў суцэльнай колектывізацыі Савецкага Саюзу. Ён дасьць нам новыя тысячы МТС (машынатрактарных станцый), якія дапамогуць цалкам колектывізаваць нашую краіну і дасягнуць высокіх ураджаеў.



**Агульны выгляд Сельмашбуду**



# ШТО ТАКОЕ



Дзень і ноч працуюць заводы і фабрыкі. Куды ідуць гэтыя вырабы заводаў і фабрык— тысячы трактароў, плугоў, касілак, сявалак, малатарняў?

Для каго капаюць горы, здабываюць і мелюць на парошок угнаеньні?

Гэта пролетарскі горад дапамагае колгаснай вёсцы.

— Здабываць хлеб не сялянскім потам, а жалезам і нафтаю,—так сказалі бальшавікі.

Але наша колгасная вёска, у сваю чаргу, павінна дапамагаць пролетарскаму гораду— даваць для рабочых і прамысловасьці свае вырабы.



Толькі такім шляхам мы узьнімем нашу агульную гаспадарку, пабудуем соцыялістычную дзяржаву.

І вось пролетарская дзяржава заключае дагавор з колгасамі і адзіналічнікамі для таго, каб наладзіць правільны плянавы абмен вырабамі паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай. Такі дагавор завецца кантрактацыяй.

— Табе патрэбны машыны,—кажа горад,— бяры машыны. Патрэбны ўгнаеньні—бяры ўгнаеньні. А зьбярэш ураджай—здавай частку яго гораду.




Сей па пляну тое, што патрэбна нашаму Савецкаму Саюзу.



# КАНТРАКТАЦЫЯ.




Так мы наладзім правільны абмен паміж соцыялістычнай прамысловасьцю і соцыялістычным земляробствам.

Савет Народных Камісараў і ЦК партыі зьвярнуліся да ўсіх організацый з адозвай дапамагчы кантрактацыі пасеваў.



Акцябраты, піонэры і вучні павінны расказаць аб адозьве сваім бацьком, кожнаму колгасьніку, бедняку і серадняку.

Трэба прачытаць гэтую адозву на сходах бацькоў. Дапамагчы комсамольцам, сельсавету добра растлумачыць значэньне кантрактацыі і праводзіць яе.

Акрамя гэтага, трэба праверыць, як выконваюцца абавязкі, узятыя па кантрактацыі.

На заводах кожны сьвядомы рабочы ўважліва сочыць за сваім варштатам: працуе па-ударнаму, ня выпускае дрэннага тавару.



А ў вёсцы кожны сьвядомы колгасьнік, бядняк і серадняк павінны выконваць свой дагавор: чысьціць і пратручваць насеньне, класьці на поле ўгнаеньне, сваячасова здаваць ураджай дзяржаве.

Усімі сіламі будзем дапамагаць партыі і ўладзе правесьці кантрактацыю.

Не дамо кулаком пашкодзіць гэтай рабоце!



# У ЦЭХІ

Сьлёсар Шыхонаў неахвотна расплюшчыў вочы і адапхнуў жонку, якая будзіла яго, тузаючы за плячо.

— Уставай, уставай!.. – казала яна.—Вось разаспаўся. Па табе работа плача.

Шыхонаў пазяхнуў і сказаў:

— А я сёньня не пайду. Адпачну крыху.

— І ўчора гуляў, і сёньня таксама!—сказала жонка. — Ды што-ж гэта будзе?

У дзьверы нехта пастукаў.

— Хто там? Зайдзеце!—крыкнула жонка.

У кватэру зайшлі тры піонэры.

— Добры дзень, тав. Шыхонаў,—кажа адзін з іх,—вы што гэта—і ўчора ня былі ў цэху, і сёньня?

Шыхонаў сярдзіта адвярнуўся да вакна і прабурчэў:

— Галава нешта вельмі шуміць...

— Так, а ваш таварыш Пархуноў сказаў, што вы з ім учора выпівалі. Так нядобра! Праз вас у цэху прарыў.

— Ну, што-ж,—адгаварваўся Шыхонаў,—заўтра пайду.. Нагонім...

Устаў і пачаў апранацца. Але піонэры не адступаліся:

— Трэба вам пайсьці хоць на вячэрнюю зьмену. Вунь ваш сусед Пархуноў, у якога мы нядаўна былі, даў слова, што пойдзе на работу... Мы ад вас не адступімся...

Гаворачы нешта сабе пад нос, Шыхонаў вышаў з хаты. Жонка загаварыла радасна:

— Вось дзякуй, што прышлі. А то разгультаіўся мой, дзень працуе, а два гуляе... Сораму ў яго няма. Буду вамі сарамаціць яго.

— Гэта добра,—сказаў піонэр Косьця. — Скажэце яшчэ, што



мы на заводзе зрабілі дзьве дошкі — чорную і чырвоную. П'яніцы і прагульнікі ўсе пападуць на чорную...

---

Вечар. На збор сыходзяцца піонэры. Расказваюць адзін другому, у каго з прагульнікаў былі сягоньня, чым скончыўся абход.

— А Прохараў—не згадзіўся,—кажа піонэр Грышка.—Гаварылі з ім з гадзіну—упёрся, як казёл, і ні з месца.

— На чорную дошку яго!

— Канешне!

— Ну, дзеці, хадзем правяраць, у цэхі!

У цэхах працавала вячэрняя зьмена.

Гудуць варштаты, як вялізарныя пчолы. У цэх уваходзіць група піонэраў. Аглядваюцца па кутках.

— Добра! І Шыхонаў за варштатам і Пархуноў на месцы.



Піонэры дружна насілі дошкі.




**Сумна без вайны генэралу,**
**Вайны чакае маршалак.**
**За буржуеў ён стаіць гарою,**
**За тое завуць яго героем.**

*(Гл. на стар. 23).*

Старшы майстра Шыманскі, усьміхаючыся, кажа піонэрам:

— Маладцы вы, піонэры! Самыя злосныя прагульнікі на працу прышлі.

— А цяпер,—кажа піонэр Валодзік, — пойдзем ім дапамагаць. Таварыш Шыманскі, дайце нам работу.

Майстра паказаў піонэрам дошкі, якія трэба было падносіць да варштату. Закіпела работа. Піонэры дружна насілі дошкі. Старэйшыя нават працавалі каля варштатаў.

Так піонэры дапамаглі зьнішчыць прарыў на заводзе.

# ТРАКТАР

*Верш В. КОМАРА.* *Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ.*

Пух-пух-пух!
Як у пух,
У зямлю
Лезе плуг.



Трактар плуг
Той вядзе,
Лёгка землю
Бярэ.

З трубкі
Бачым дымок,
Ззаду
Дробны пылок.



Ён ня толькі арэ,
Ён і косіць,
І жне.

Прывёз дровы
З ляска—
К малатарні
Пара.



Там стаіць
І пыхціць,
Збожжа градам
Ляціць.

А зімой
У гумне
Ён таксама
Ня сьпіць,



Каб сьвятло
Было ўсім—
Ен дынамку
Вярціць.

# ПЕРАМОЖЦЫ



*Апавяданьне П. АНДОРА*
*Малюнкі А. КАМАРОВА*

Ці хочаце вы ведаць, як два маленькія хлопчыкі — папуасцы — Куму і Тэтэ перахітрылі ведзьмака Тота-Коа?

Але перш за ўсё трэба сказаць, што Куму і Тэтэ жылі вельмі далёка ад нас, на самай вялікай выспе—Новай Гвінэі, каля Аўстраліі.

На Новай Гвінэі жыве многа розных пляменьняў дзікіх людзей. У лепшай частцы выспы, на поўдні, жыве племя папуа.

У гэтай мясцовасьці вельмі горача. Таму Куму і Тэтэ бегалі зусім голыя. Валасы ў іх былі кучаравыя.

Папуасаў і завуць так па іх валасох. Папуа—азначае „кучаравагаловыя“.

Увесь дзень папуасы жывуць на дварэ. А для таго, каб было дзе спаць уночы і хавацца ад дажджу, яны робяць сабе хаты на слупох. Сьцены хат плятуць з дубцоў, травы і абмазваюць глінай. Страху робяць з пальмавых лістоў.

Раней дзікуны елі што папала. Жанчыны палкамі капалі карэньні розных расьлін, зьбіралі арэхі, насеньне травы. Мужчыны лавілі рыбу, білі зьвяроў і птушак.

Цяпер папуасы сеюць какарузу і пшаніцу, садзяць агуркі, бульбу, разводзяць сьвіней, авец і коз.

Гэтаму навучылі іх белыя людзі—ангельцы, якія за гэта вывозяць адтуль золата, сушаныя арэхі. Ангельцы бяруць усё гэта траха што дарэмна.

Маці Куму і Тэтэ — Неола ўрабляла невялічкі кавалак зямлі, на якой яна сеяла какарузу, агуркі і бульбу. Было ў іх яшчэ




**А гэты пісака—**
**Верны буржуйскі сабака—**
**Піша ўдзень і ўночы,**
**Лае краіну рабочых.**

*(Гл. на стар. 25)*

дзьве казы і маленькае парася, што складала галоўнае багацьце гаспадаркі. Куму і Тэтэ дапамагалі матцы даглядаць жывёлу.

Бацька іх Хонгі езьдзіў лавіць рыбу, хадзіў з лукам і стрэламі на паляваньне.

Вёска папуасаў знаходзілася на беразе мора. Мясцовасьць была прыгожая. Дзеці з усяе вёскі сядзелі часта на беразе і чакалі, калі прыедзе „вялікі дом“ —параход.

---

Аднаго разу мужчыны ўсяе вёскі паехалі ў мора лавіць рыбу. Паехаў з імі і Хонгі.

Жанчыны і дзеці вышлі праводзіць мужчын і доўга глядзелі ў той бок, куды яны паехалі.

Дзень ішоў за днём, а рыбакі не варочаліся дамоў. Неола пачала непакоіцца.

Як і ўсе папуасы, яна верыла ў забабоны аб тым, што паміж людзей жыве нейкі нячысты дух. І гэты дух нібы ходзіць за людзьмі і стараецца прынесьці ім бяду.

Верыла Неола і ў тое, што ёсьць такія людзі—жрацы-ведзьмакі, якія могуць выратаваць людзей ад гэтых духаў і зрабіць з чалавекам, што захочуць. Дзікуны баяліся гэтых ведзьмакоў.

У вёсьцы, дзе жылі Куму і Тэтэ, быў такі стары вядзьмак Тота-Коа. Яго баяліся ўсе, бо ён казаў, што можа наслаць хваробу і сьмерць, наклікаць бяду і няшчасьце.



*— Прашу цябе, выратуй мужыка!..*

І людзі прыносілі яму розныя падарункі—забітых жывёл, золата, арэхі, каб пазбавіцца ад



*Неола вяла на вяроўцы козы і несла ў мяшку парася...*

бяды і хваробы. Тота-Коа ўсім абяцаў шмат дабра, а сам жыў багата і нікога не баяўся.

---

На пяты дзень пасьля ад‘езду Хонгі Неола пашла да Тота-Коа прасіць, каб памаліўся за мужыка.

У Тота-Коа была вялікая хата. Вялікія нары былі накрыты дарагімі шкурамі зьвяроў. На паліцах стаяла шмат пасуды. Усё гэта прынесьлі жыхары вёскі. Усе яны часта прыходзілі да яго за дапамогаю. Хто прасіў палячыць, хто прасіў пажадаць яму добрага паляваньня, перамагчы ворага.

І Тота-Коа браўся за ўсё.

Прышоўшы да ведзьмака, Неола кінулася яму ў ногі і сказала:

— Прашу цябе, выратуй мужа!

Тота-Коа важна сказаў:

— Я ведаю, яму пагражае бяда. Ён можа памерці. Але я магу выратаваць яго.

— Я прашу цябе вялікі Тота-Коа!..

— Я выратую яго, — сказаў Тота-Коа, — ідзі прывядзі сюды свае козы і парася.

— Добра,—сказала Неола.— Толькі выратуй яго...

---

Куму і Тэтэ моцна плакалі, калі Неола вяла на вяроўцы козы і несла у мяшку за плячыма парася. І сама Неола не магла стрымацца ад сьлёз.



**Фашысты перад капіталістым**
**Сьцелецца лістам.**
**Ён узброіўся да зубоў**
**І памагаць папу**
**Заўсёды гатоў.**



**Паліцэйскі—кат**
**Паслужыць буржую рад.**

*(Гл. на стар. 26)*



А Тота-Коа загнаў жывёлу ў хлеў і сказаў Неоле:

— Ідзі і будзь спакойна. Мужык твой скора вернецца.

Але дні ішлі за днямі, а Хонгі не варочаўся дамоў. Другія рыбакі вярнуліся і казалі, што на іх наляцела вялікая навальніца і некалькі лодак захапіла мора.

Тэтэ і Куму кожны дзень хадзілі каля хаты ведзьмака. Яны нудзіліся аб козах і парасяці. Ім хацелася паглядзець на іх. Але Тота-Коа сядзеў каля ўваходу свае хаты і дзеці не асьмельваліся падыйсьці блізка.

---

Неяк раз да Неолы зайшла яе суседка і сказала:

— Твой мужык, мабыць, скора вернецца. Тота-Коа сам паехаў па яго ў мора. Багаты жрэц-вядзьмак, выходзячы з дому, паставіў каля свае хаты тоўсты кавалак дрэва. На ім быў намалёван чалавек. Гэта служыць замест стоража пакінутай хаты. Усе баяліся зайсьці ў хату, бо верылі, што ад гэтага будзе няшчасьце.

Але Куму і Тэтэ ня ведалі гэтага. Яны зараз-жа пабеглі да хаты ведзьмака, залезьлі ў хлеў і пагналі дамоў парася і козы.

Неола ўзрадвалася гэтаму, але ёй стала страшна за дзяцей.

„Што яны нарабілі!.. Нячысты дух пакарае іх“—спужаўшыся, думала яна.

Неола дрэнна спала ўсю ноч. Увесь час думала пра дзяцей, пра мужыка і аб тым, якая бяда чакае іх.

І калі раніцою пачула на вуліцы моцны крык і грукат чалавечых ног, выбегла на вуліцу.

Старыя і дзеці беглі на бераг мора і крычалі:

— Вялікі дом!.. Вялікі дом!..



**Сьмелы белы афіцэр**
**Прапіў стары рэвольвэр,**
**Прапіў нават сваю шашку,**
**Прапіў верхнюю рубашку.**
**А цяпер, каб зарабіць,**
**Ён гатоў рабочых біць.**

*(Гл. на стар. 27)*

Неола зразумела, што да берагу падплывае замежны параход і ўсе бягуць глядзець яго. Яна таксама вышла на вуліцу, але ўбачыла Тота-Коа і замерла на месцы. Тота-Коа сярдзіта паглядзеў на яе.

— Будзеш ты праклята,—сказаў ён.—Вялікае гора будзе табе. Мужык твой загіне!

Куму і Тэтэ выбеглі на вуліцу з крыкам:

— Хадзем сустракаць вялікі дом!.. Хадзем!..

Але Неола ад сполаху схапіла іх рукамі ды кажа:

— Не, не... няможна... страшна... Тота-Коа злуе на нас!.. Будзе бяда... Што вы, дзеткі, зрабілі...

Яна бегала па дварэ, кідала палкаю на козы і ня ведала, што рабіць. Раптам яна пачула знаёмы голас:

— Неола!

Гэта быў Хонгі, бацька Куму і Тэтэ. А за яго сьпіною стаяў вялікага росту матрос.

— Хонгі... Брат Гоген!..— крыкнула ад радасьці Неола.

---





**І вось вышлі яны,**
**Тыя, што хочуць вайны.**
**Супроць саветаў ідуць,**
**Крыжовы паход вядуць.**
**Праходзяць фашыстых роты,**
**Па небе ляцяць самалёты,**
**Ідуць за палкамі палкі,**
**Узьняўшы у гору штыхі,**
**Бразгочуць па бруку падковы.**
**— Ну, што-ж, і мы гатовы!**
**Рукі прэч ад краіны саветаў!**
**З намі працоўныя**
**Цэлага сьвету!**

---

Ніколі Неола ня была такою шчасьліваю, як сёньня. Асабліва, калі яе брат Гоген сказаў:

— Ня бойся Тота-Коа. Ён сам будзе маўчаць аб тым, што зрабілі Куму і Тэтэ. Альбо скажа, што аддаў табе козы і парасё па добрай волі. А мы без яго выратавалі Хонгі.

Куму і Тэтэ часта ўспаміналі гэты выпадак і сьмяяліся з старога ведзьмака Тота-Коа.

*С. Прэабражэнскі*

# ДВА ФРОНТЫ

**(Інсцэніроўка).**

**Кіраўнік** *(перад заслонаю).* Наша будаўніцтва расьце і шырыцца. Мы скорымі шагамі ідзем наперад да комунізму. Нашы посьпехі набліжаюць капіталістычны сьвет да пагібелі. Дзеля гэтага буржуазія рыхтуе вайну супроць СССР.

Мы павінны пільна сачыць за нашымі ворагамі і кожную хвіліну быць напагатове. Слаўнае баявое мінулае Чырвонай арміі дае нам упэўненасьць, што мы здолеем адбіць напор капіталістых. Мы павінны вывучаць гісторыю Чырвонай арміі, каб падрыхтаваць з сябе надзейных, вытрыманых барацьбітоў, якім прыдзецца абараняць краіну Саветаў. Не забываючыся аб гэтым, мы павінны дапамагаць нашым бацьком выканаць пяцігодку за чатыры гады. Гэта ўмацуе баявую сілу нашай краіны і будзе лепшым адказам капіталістым, якія спадзяюцца задушыць нас вайною.

*(Адчыняецца заслона. На сцэне паміж двума шчытамі карта фронтаў 1918-20 гадоў. Перад картаю чырвонаармеец і дзеці Рыгорка і Манька. Чырвонаармеец расказвае пра мінулае змаганьне, паказваючы галоўныя пункты на карце. Калі выступаюць маскі — стаіць спакойна).*

**Чыр-ец.**

Быў фронт з усіх бакоў!
Хацелі зьнішчыць нас.
*(Паказвае на карце).*
Дзянікін тут.
А там Красноў.
Пілсуцкі і Калчак.
Барон. Чэха-славак
Пускалі танкі, газ.
Паўстала зграя груганоў
Капіталістых і паноў,
Каб нашу волю задушыць,
Каб зноў з крыві рабочых жыць!

**Маска абываталя** *(з-за шчыта).*

Іван Іваныч!
Чулі гэта?
На-днях капут Саветам!
*(Зьнікае.)*

**Маска генэрала** *(у аднэй руцэ шашка, у другой—бутэлька).*

За бацькаўшчыну, вер-р-р-у і
цар-р-р-а!
Патронаў не шкадуй! У-р-р-р-а!
*(Зьнікае).*

**Маска кулака.** Зялёныя, айда!
Чырвоных беце з тылу!
Ўсіх камісараў бяз суда
Жывых кладзі ў магілу!
*(Зьнікае).*

**Чыр-ец.** А хто кайданы нам каваў
За межамі краіны,
Хто зброю генэралам слаў,
Кулацкія паўстаньні узьнімаў,—
Буржуі Англіі, францускія
банкіры.

**Маска чужаземца.** Чым можам
Белым дапаможам. *(Перадае макеты).*
Вось танкі, самалёты і гарматы!
А вы нам... нафту й вугаль
Дасьце... за нашу страту.

**Маска генэрала.** Будзе вам вугаль
і нафта!

Аб гэтым спрачацца ня варта.
З вашай зброяй мы зьнішчым
адразу
Бальшавіцкую заразу.

**Чыр-ец** *(перапыняе, нямогучы стрымацца).*

Брэшаш! Зьнішчыць вам не
ўдалося!
Не памаглі ні танкі, ні патроны!
Магутным клічам праняслося:
— **Усе, як адзін, на абарону!**

*(Рэха паўтарае апошнія словы).*

Рабочы, кідай свой варштат!
Ратай, пакінь загоны!
Бяры патрон, бяры снарад,
Бі гадзіну з разгону!
І ў бок! І ў лоб!
Таўчы на кашу!



*(маскі зьнікаюць).*

Узяты Перакоп!
Перамога наша!

*(У залі воплескі).*

**Рыгорка.** І ў бок! І ў лоб!
Таўчы на кашу!
Узяты Перакоп!
Перамога—наша!
Здарова! Малайцы нашы!

**Манька.** Яшчэ-б. Нядарма ў песьні пяецца...

*(Сьпявае, Рыгорка памагае).*

„Няхай чырвоная
Свой штык гартованы
Трымае моцнаю рукой...“

*(Рыгорка перастае сьпяваць. У яго зьмяніўся настрой).*

**Рыгорка** *(чырвонаармейцу).* Ты вось... шчасьлівы. Ты змагаўся. А мы не!

**Чыр-ец.** А табе колькі тады было год?

**Рыгорка.** Мне? Мяне тады яшчэ ня было на сьвеце...

**Манька.** І мяне таксама... Я нічога ня ведаю.

**Рыгорка.** Эх, калі-б цяпер вайна. І я-б дома не сядзеў!

**Манька.** І я не.

**Рыгорка.** Я работу-б сабе знайшоў. Дарма, што яшчэ малы.

**Манька.** Толькі вось фронту цяпер няма.

**Чыр-ец.** Як няма? А вы падумайце, дзеці, можа і цяпер ёсьць фронт, другі? І змаганьне на ім адбываецца.

**Рыгорка.** Ну, і сказаў-жа! Які-ж цяпер фронт? Дзе змаганьне цяпер?

**Чыр-ец.** А вось здагадайцеся самі. Вы ўжо не маленькія.

*(Выходзіць).*

**Манька.** Што-ж гэта ён гавора?

**Рыгорка.** Думай лепш, ня пытай!

**Манька.** А вось і ты ня ведаеш. Ты кажаш, што ты ўсё ведаеш.

**Рыгорка.** Ведаў, ды забыўся. Пакінь, не перашкаджай думаць!

**Манька.** Рыгорка, а Рыгорка, можа ў таварышоў запытацца? Гэй, хто з вас ведае, які цяпер фронт, дзе змаганьне адбываецца? Га?

**Рыгорка.** Вось і яны ня ведаюць! *(Магчыма, што хто-небудзь з публікі дасьць адказ. Тады апошнія словы Рыгоркі непатрэбны. У гэты час карта франтоў замяняецца картай пяцігодкі. Выходзіць рабочы).*

**Рабочы.** Ну, дзеці, знайшлі другі фронт? Хто ня ведае, глядзі сюды! Чытай!

**Рыгорка** *(чытае).* Карта пяцігодкі.

**Манька.** А дзе-ж фронт, змаганьне?



**Рабочы.** Атрымалі гаспадарку мы старую, разбураную, доўга з ёю не пражывеш. Мяняць трэба, усё нанава рабіць. Тут усюды фронт, без змаганьня не абыйдзешся. Садзецеся, вось, і слухайце.

Рабочы *(накалвае на карту сьцяжкі).*
Вось наш фронт.
Глядзеце, запомніце. Вот!
Тут кожны значок—заводы!
Кожны сьцяжок—будучы горад!
Карта гаворыць,
Карта сьпявае
Аб перамозе пяцігодкі.
Але і тут ёсьць такія,
Што хочуць спыніць нас, суняць.
Шкодзяць нам ворагі ліхія
Соцыялізм будаваць.
(Зьяўляюцца маскі)



**Маска кулака** *(да гледачоў).*
Што-ж гэта? Канец сьвету?
Грамадзяне! Ня слухайце іх, ня верце!
Загубяць вас чырвоныя чэрці!
Было на небе зьяўленьне,
Што колгасы—адно разбурэньне...
*(Хаваецца і зьяўляецца зноў з абрэзам).*
Ну, а дзе цудоўная сіла не дапаможа,
Там і з гэтага *(паказвае)* біць можна.
*(Страляе).*

**Маска абывателя-бюрократа.**
Пытаньне будаўніцтва—вельмі важнае і новае,
Пусьцім-жа ў работу тармазы папяровыя.
*(Круціць калясо пратаколаў, справак і іншай канцылярщчыны. Зрабіць гэта можна ў выглядзе шпулькі, на якую наверчаны паперкі).*



Сходы, пасяджэньні,
Камісіі, падкамісіі,
Пратаколы, рашэньні,
Парады, нарады.
*(Сьмяецца).*
Ну, а будаўніцтва
На тое лета,
А не на гэта,
Пасьля дожджыку ў чацьвер!

**Маска шкодніка.**
Рабоце будаўнікоў
Я перашкодзіць
Заўсёды гатоў!
Мне падабаюцца—
Прагульнік,
Растратнік
І п'яніца.



**Рабочы.** Яны стараюцца спыніць
Наш пераможны поступ.
І ночы цэлыя і дні
На нас ўсё зубы вострацьl

**Маскі папы і капіталістага.**
Расьце праклятая краіна,
Мацнее з кожным годам.
Мы задушыць яе павінны
Крыжовым паходам.

**Рабочы.** Лжэш, гадзіна! сабачы сын!
Табе адказ ад нас кароткі:
Таварышы, усе, як адзін,
На фронт за пяцігодку!
*(Іграе горн).*

**Усе** *(хорам).* І калі вораг люты зноўку
Пачне шугаць крываваю вайной,
Мы возьмем, як адзін, вінтоўкі,
Рашучы і астатні прымем бой!
*(Канец).*





Мы вучымся працаваць на заводзе



А мы—у колгасе

# СЬВЯТА ПЕРАМОГ.

*Верш дяткора Р. ХАЦКЕВІЧА.*



Шагаице ўсе з музыкамі
На сьвята перамог!
Зямля, зямля Вялікая
Красуецца ў сьцягох.
Калісьці з песьняй звонкаю
Ня крочылі на пляц—
Ішлі у лес пацёмкамі
Адвагу гартаваць.

Колгаснымі абшарамі
Пяе наша пара.
Брыгадаю ударнаю
Выходзім на парад.
Мацней сьцягі чырвоныя
Над галавой трымай!
Калёнаю гартованай—
На Першамай!

## ПАДУМАЙ

### ХТО ВОРАГ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

На малюнку пяць фігур: 4 трыкутнікі і адна паложаная накась запалка. Трэба палажыць у гэтых фігурах 4 запалкі так, каб атрымалася назва ворага колектывізацыі.



### ХТО АДГАДАЕ

1. Жалезны конь,
   У жываце агонь.
   Есьці ня просіць,
   Арэ, жне і косіць.

2. Крыльле мае,
   Высока лятае.
   Людзей возіць,
   Адпачынку ня просіць.

3. Ем я вугаль,
   П'ю ваду.
   Цягну абоз
   На сто калёс.
   Завуць мяне...

4. Ляжыць яліна, у кожны двор галіна.

5. Быў клін, стаў блін. Цячэ вада, а мне не бяда.

6. Чырвоны колер, салодкі на смак, каменнае сэрца.

### УГАДАЙЦЕ НАЗВУ.

Увосень мінулага году ў Маскву прылятаў нямецкі дырыжабль „Граф Цэпелін“. Прылёт гэтага „графа“ даў нам карысьць, хоць звычайна ад графаў ніякае карысьці ня бывае.

Якую-ж карысьць ён нам даў?

А вось якую. Да таго часу наша грамадзкасьць зьвяртала мала ўвагі на будаўніцтва дырыжабляў. А для нашай краіны дырыжабль мае вялікае значэньне.

І вось, калі прыляцеў нямецкі дырыжабль, дык рабочыя падумалі: „добрая маша, але ня наша“, і парашылі пабудаваць свой, савецкі дырыжабль. За гэту справу ўзяліся сотні тысяч працоўных Саюзу.

Вы хочаце ведаць, як будзе звацца першы савецкі дырыжабль? Разлажэце на стале 20 запалак, як паказана на малюнку. Вы атрымаеце вобраз дырыжабля. А цяпер пералажэце запалкі так, каб атрымалася назва гэтага дырыжабля.



ЦАНА 18 КАП.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА АДЗІНУЮ Ў БССР ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІС

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . . . . | 15 к. |
| На 3 месяцы . . . . . . | 45 к. |
| На 6 месяцаў . . . . . | 90 к. |



„Іскры Ільіча“ самая патрэбная, нарысная і цікавая часопісь для пачатковых школ, для малодшых піонэраў, для акцябрат, дзіцячых дамоў і садоў

**ДЗЕЦІ**

выпісвайце і чытайце сваю часопісь

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — зьмяшчаюць на сваіх старонках вершы, нарысы, галаваломкі, жарты, прыгожыя малюнкі ў фарбах

**НАСТАЎНІКІ**

організуйце колектыўную падпіску сярод вучняў на часопісь

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — даюць многа каштоўнага матар'ялу кожнаму настаўніку пачатковай школы, кіраўніку дашкольных устаноў, павадыру групы акцябрат і павадыру атраду

**БАЦЬКІ**

вашы дзеці хочуць чытаць сваю часопісь

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** — апрача орыгінальных твораў беларускіх пісьменьнікаў зьмяшчаюць творы для дзяцей з расійскай, украінскай, нямецкай і іншых моваў

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ ТОЛЬКІ НА ПОШТУ ЦІ ЛІСТАНОСЦАМ

Орган ЦК ЛКСМБ і наркамасьветы

Друк. імя Сталіна. Заказ № 437. Тыраж 6.500. Галоўлітбел № 426.